Год I. Красавік № 2.

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1929 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Людвісарская вул. 1

ЗЬМЕСТ:



---

## АХВЯРЫ

**на выдавецтва „Шляху Моладзі“ злажылі:**

Кс. В. Шутовіч 15 зл., кс. д-р праф. Я. Рэшаць 10 зл., кс. Фр. Чарняўскі 7 зл., пас. П. Каруза 10 зл., пас А. Стэповіч 10 зл., Г. Карузянка 5 зл., д-р Ігн. Гагалінскі 5 зл., А. Б. 5 зл., сэн. В. Рагуля 5 зл., кс. Ад. Станкевіч 5 зл., Я. Быліна 5 зл., Я. Зянюк 6 зл., А. Яцына 3 зл., д-р Б. Г. 1 зл., В. Т. 2 зл. С. Паўловіч 1 зл.. Ст. Станкевіч 2 зл, 50 гр. М. К. 50 гр., кс. В. Гадлеўскі 5 зл., Ізаак Зысман 5 зл., пас. Ф. Ярэміч 5 зл., Вільгельм Малей 4 зл., кс. П. Татарыновіч 4 зл. 50 гр., К. Амуцінскі 2 зл., М. Шутовічанка 2 зл., Язэп Бауман 2 зл., А. Ходзька 2 зл., Я. Пазьняк 2 зл., А. Калядзянка 2 зл., Р. Плаўскі 3 зл., Ю. Саковіч 2 зл., Т. Вернікоўскі 2 зл., Я. Пешка 1 зл., Г. Урбановіч 1 зл., „Місс П“. 1 зл., С. Сьвістун 1 зл., Ул. Гмыр 1 зл., І. Тумаш 1 зл., Н. 2 зл., Г. 2 зл. 50 гр., Х. 1 зл., Лобан 2 зл., Маскалік М. 2 зл., А. Л. 1 зл., М. 1 зл., В. 1 зл., сэн. В. Багдановіч 2 зл.

Усім ахвярадаўцам Рэдакцыйная Калегія шчыра дзякуе.

---

## *ПАДЗЯКА*

*Гэтым складаем шчырую падзяку грамадзянам: Я. Бауману і Ант. Ходзьку за ганаровую працу ў тэхнічным выкананьні № 1 „Шляху Моладзі.“*

*Рэдакцыйная Калегія.*

---

УВАГА. Усім тым асобам, каторыя не далі аб сабе нічога знаць Рэдакцыі „Шляху Моладзі“, высылка часопісі спынена. Тыя каторыя знойдуць і прышлюць 5 платных падпішчыааў, „Шлях Моладзі“ будзе высылацца дарма.

PIERASYŁKA APŁAČANA RYČAŁTAM ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| | |
|---|---|
| Падпіска месячна . . . . 35 гр.<br>„ на паўгода . . 2 зл.<br>„ на год . . . . 4 зл.<br>Заграніцу ўдвая даражэй. | Цана абвестак:<br>Цэлая старонка . . . . 40 зл.<br>Паўстаронкі . . . . . 20 зл.<br>Адна чацьвертая старонкі 10 зл.<br>Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы. |

Адрэс Рэдакцыі: Вільня, Людвісарская № 1 — 23.
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

## Сьвяточныя думкі.

Адзінаццатыя ўгодкі Незалежнасьці Беларусі ў гэтым годзе, сапраўды, нейкім асобным, вясялейшым рэхам адбіліся ў душах нашых грамадзян.

На асаблівую ўвагу заслужывае высокі, здаровы пад'ём духа ў нашай моладзі.

Да прычын гэтага асаблівага энтуз'язму, трэба залічыць апрача ўрачыстых набажэнстваў у касьць. сьв. Мікалая і ў Сьвятатроіцкай царкве і акадэміі з высокаартыстычнымі сьпевамі, ды душупраймаючымі гарачымі прамовамі, яшчэ і гарачы настрой, выкліканы з аднаго цьвёрдымі, няпрыязнымі адносінамі нашых ворагаў, а з другога — цёплай — братняю спагадай нашых прыяцеляў Ліцьвіноў і Украінцаў.

Нельга абмінуць тут глыбокія словы з сьвяточнае прамовы высока паважанага нашага змагара за Бацькаўшчыну кс. В. Гадлеўскага, каторыя на заўсёды мы павінны захаваць у сэрцы.

...„Вясна. Сьвятая Вербніца. Увесь хрысьціянскі сьвет, вышаў сяньня спаткаць Хрыста — Божага Адрадзіцеля людзкое душы, натхнёнай радасьцю пяючы грамагалоснае Осанна!...

Мы-ж, Беларусы, тое Осанна пяём сяньня з уздвоеным энтуз'язмам, бо выпала нам сёлета спаткаць Хрыста ня толькі нясучага нам рэлігійна-маральнае

адраджэньне, але й ідэал адраджэньня нашага народнага, ідэал незалежнасьці.

У дасягненьні ідэалаў, казаў далей прамоўца — адмеціць чатыры настуцныя фазы: пазнаньне, любоў, праца, ахвяра...

Ці ўсе браты нашы пазналі як-сьлед ідэал незалежнасьці, ці не выбражаюць яго сабе туманна, нявыразна, ці пазнаўшы яго пакахалі, ці ім даражаць усе нашы браты, ці ставяць яго вышэй свае ўласнае карысьці, ды ці кладуць на аўтары яго—сваю натужную, сыстэматычную, шчыраю, безінтэрэсоўную працу?

Незалежнасьць трэба нам, Браты выкупіць гарачай самаахвярнасьцю!

А ціж тых ахвяр, мы мала яшчэ складалі на аўтары Бацькаўшчыны?

Дык чаго-ж недахват.

Трэба нам дбаць, каб агонь наш ахвярны не шыбаў пад уплывам рожных ор'ентацыяў, настрояў— вятроў палітычных ані на захад, ані на ўсход, але каб тое полымя нашае ахвярнасьці магутна ўзнасілася над усёй нашай Бацькаўшчынай проста к высокаму небу"!..

Браты маладыя і Сёстранькі!

Незабаўна вось, разам з усім хрысьціянскім сьветам запяём і другую вясёлую, натхнёную песьню... Пад скляпеньні нашых сьвятыняў ўзнясецца Вялікоднае „Хрыстос Ускрос"!...

Нясем-жа ахвотна крыж нашых абавязкаў, складайма на аўтар Бацькаўшчыны, як найбольш веры, любові і шчырае, ахвярнае працы, каб і яна хутчэй да паўнаты жыцьця ўскросла!...

# Моладзь і вёска.

Як сьвет сьветам, уся людзкасьць усьцяж аглядаецца на вёску і моладзь, як на два вогнішчы, дзьве жывыя крыніцы, дзе родзяцца й скуль выходзяць для людзкасьці гэтыя бязупынна новыя, творчыя сілы. Але і між сабой

моладзь і вёска знаходзяцца таксама ў пэўнай залежнасьці: яны ў жыцьці сваім, між сабой цесна спалучаны, так—што памыснае разьвіцьцё аднаго без другога — немагчыма. У гэтым крыецца глыбокая навука, якую маглі не дагледзіць старэйшыя пачынальнікі працы між моладзьдзю, але чаго ўжо ня сьмее з вачэй прапусьціць, асабліва наша беларуская моладзь сучасная, выйшаўшая амаль выключна з-пад саламяных стрэх сялянскіх. Навука гэта зводзіцца да таго, што моладзь выйшаўшая з вёскі гэтай-жа вёсцы перадусім мусіць астацца заўсёды вернай і аб ёй дбаць.

Што значыць астацца вёсцы верным, і чым беларуская моладзь гэту вернасьць можа найлепш даказаць?

Астацца вёсцы верным—знача, ўсюды і **заўсёды** мець на воку дабрабыт гэтае-ж вёскі. Выразна кажу „заўсёды“, бо ў дастатку вёска „прыяцеляў“ можа мець колькі хоча. Як-жа цяжка гэтай вёсцы перажываць часы неўраджаю, пошасьцяў і іншых бедаў, калі ўсякая праца ў местах напр. у фабрыках і інш. аплачываецца далёка лепш? Хто не пакіне вёскі і ў такія цяжкія для яе часы, ды каго ня зломяць так частыя на гэтым полі працы незразуменьне і горкая няўдзячнасьць, той толькі ёсьць вёсцы сапраўды верным.

Мала аднак знача для вёскі такая „вернасьць“, калі моладзь стуль, праўда яшчэ не ўцякае, але сядзіць там толькі злажыўшы рукі. Гэткай моладзі на нашых вёсках ёсьць шмат, але якая-ж гэтага карысьць? Вернасьць вёсцы мусіць залежыць у тым, каб моладзь вясковая сьвежым яшчэ розумам і ўсімі маладымі сіламі бралася чынна прыгатаўляцца да працы, якую па бацькох сваіх будзе змушана пераняць і далей вясьці. Вёска наша беларуская жыве выключна з земляробства, дык і будучыня ейная таксама ў земляробстве.

У якім-жа стане гэта наша земляробства знаходзіцца? Меймо на ўвазе перадусім абшары Заходняй Беларусі, якія сяньня знаходзяцца пад Польшчай. „Публічным сэкрэтам“ сягоньня ёсьць, што земляробства ў Польшчы стаіць вельмі нізка і жах проста бярэ, што беларускія абшары стаяць пры гэтым земляробстве на апошнім амаль месцы. На гэты сумны стан рэчаў паказывалася ўжо неаднойчы, заўсёды аднак амаль бяз выніку. Прычыны гэтага: пасьляваеннае абядненьне і часта карыгодная, проста няўвага нашых старшых людзей да пэўна-выпрабаваных спосабаў палепшаньня земляробскай гаспадаркі.

Якое-ж удзячнае тут заданьне для нашай земляробскай, або і з земляробства толькі вышаўшай **моладзі!?** З 100 працэнтнай пэўнасьцю сказаць наперад ужо можна, што будучыня ўсяго нашага земляробства, а тым самым дабрабыт амаль ня цэлага Краю нашага, залежыць будзе ад таго, як моладзь наша сучасная сваё чэснае заданьне зразумее

і да яго прыгатуецца: дабрабыт вёскі і цэлага Краю ёсьць дабрабытам моладзі і наадварот.

Мы з сваей стараны пастараемся да пытаньня гэтага ў меру патрэбы яшчэ вярнуцца. **б.**

# Трэба адрадзіцца.

I.

Кожны юнак, больш-менш ужо разьвіты, разглядаючыся кругом сябе вокам уважнага дасьледчыка — заўважвае, што ня добра сяньня дзеіцца на сьвеце. І хоць крытыкаваць яшчэ ня ўмее ды ня любіць, аднак з жахам мусяціме прызнаць, што ўсё, яго акружаючае дзіўна неяк вышла з свае каляіны, згубіла сэнс, адхілілася ад кіраўнічае думкі Вялікага, Прамудрага і Добрага Кіраўніка ўсясьвету

Дзе ня кіне вокам, усюды напаткае супярэчнасьці: прыгожыя прынцыпы і адначасна марныя чыны; багатую, раскошную прыроду, а на яе ўлоньні, часта абадранага, няшчасьлівага чалавека...

І чаму-ж гэта чалавек абдараны вялікімі здольнасьцямі і празначаны на ўладара сьвету, бывае ў ім так няздарным гаспадаром? Чаму-ж на гэнай прыгожай зямлі замест гымну радасьці ды ўдзячнасьці, сяньня так часта ўсюды разлягаюцца стогны і скрыгот зубоў?...

Гэта дзеіцца дзеля таго, што **сучасны чалавек, згубіўшы сваю мэту і дарогу да мэты, згубіўшы сэнс жыцьця, стрымгалоў ляціць у бяздонную пропасьць. Ад гэнай гібелі трэба яго ўстрымаць, трэба адрадзіць!**

Адраджэньне!... Што за чар у гэным слове! Што за глыбіня надзеі й лятуценьняў для маладых, гарачых душ!

Ёсьць дрэнна! А чаму-ж ня мае быць добра?!...

Такая ўжо, бач, лёгіка маладых, каторыя ад думкі зараз-жа імкнуцца да вываду, а ад вываду — да чыну!

Лёгіка ім падсказвае: калі на сьвеце дрэнна з прычыны благаты, дык трэба гэтага чалавека пакіраваць на добрую дарогу, трэба яго адрадзіць!

II.

Але ад каго-ж пачнецца той адраджэнскі імпульс, калі не ад тых, перад каторымі адкрываецца жыцьцё, каторых крыльля яшчэ не аслаблены рукі ня змучаны, а сэрцы рвуцца да высокіх ідэалаў?!...

Дык вялікая задача адкрываецца перад намі маладымі! Чакае нас важная праца, праца годная нашых маладых парываў! Дык сьмела бярыся да гэнай працы, Маладая нашая

Беларуская Рацъ! Не паддаваймася маладушнасьці: быццам гэныя ідэалы для нас недасьціжны! Моладасьць — дае права да найвышэйшых парываў! Мы людзі будучыны! Будучына ў нашых руках.

І вось мы ўжо гатовы. Ад чаго распачаць?

Працу гэную адраджэнскую, мы маладыя, павінны распачаць **ад сябе самых**. Бо перш, чым возьмемся рэформаваць —наладжваць выкалеенае жыцьцё, трэба спярша сябе наладзіць. Трэба разьвіць нам маральныя, разумовыя і фізычныя сілы і здольнасьці: выкаваць характар, здабыць, веду і здаровы сьветагляд.

Вось тут і родзіцца патрэба адпаведнай часопісі, аснаўною мэтай каторае было-б: **ідэовае ўсьведамляньне, выпрацоўваньне здаровае орыентацыі ў маладых адзінак, выходзячых на арэну жыцьця**. Знайсьці ідэалы для нашай моладзі, разбудзіць да іх жывое зацікаўленьне і пламенную, ахвярную любоў, паказаць дарогу да іх асягненьня, паказаць адпаведную літэратуру, мэтоды самаўзгадаваньня, пашырыць, ды паглыбіць веду і самаведу, разбудзіць ды разьвіць у маладых душах здольнасьці і ахвоту да ідэйнай працы, а з другога боку адкрыць вочы на небясьпекі — вось задача такое часопісі. Усё гэта мае споўніць „Шлях Моладзі". Ці ўдасца?

Залежыціме ад зразуменьня і выпаўненьня нашых адносна гэтай часопісі абавязкаў.

**П. Задума.**

# Вясна, Вясна!..

Праходзяць вякі, якія складаюцца з гадоў. Год-жа праходзіць чатыры пары: вясну, лета, восень і зіму.

Вясна!... Што за роскаш чуецца ў гэтым слове!... Гэта пара, калі сонца зачынае мацней грэць, рэчкі гаманіць, калі сьвет увесь будзіцца да жыцьця, калі краскі разцьвітаюць, птушкі прылятаюць і прыгожымі сваімі галасамі вясяляць жыцьцё людзям.

Лета — гэта пара, калі ўсё зелянее, збожжа дасьпявае, а гаспадары яго зьбіраюць і звозяць у свае гумны...

Восень — сумная пара, бо ў гэтую пару ўсё заміраe, усё тады як-бы плача па так прыгожых порах, як вясна і лета.

Зіма неспакойная, страшная пара году! Зямля ў гэтай пары замерзлая, як скала, рэчка закутая ў ланцугі лядовыя, ваўкі зьбіраюцца ў грамады і нападаюць на людзей і іх жывёлу, сонца зусім мала сьвеціць і грэе, птушкі не пяюць, красак нідзе ня ўбачыш, — усё замёршае — ўсюды няволя.

Возь-жа час названы годам, можна параўнаць да нашага беларускага жыцьця.

Народ наш беларускі пераждываў вясну, перажываў ён нават і лета. Гэта той час, калі законы Вялікага Княжства Літоўска-Беларускага пісаліся пабеларуску і, калі народ наш быў вольны і сам сабой кіраваў. Настала аднак восень, стала ўсё заміраць... І прышла страшная і непераможная зіма... Замерла Беларусь... Замёр Беларускі Народ. Як тыя рэкі ў няволі лядовай, апынуліся беларускія школы, касьцёл, царква, каторыя даўней, нясьлі навуку, прасьвету, культуру, Слова Божае ў роднай беларускай мове. Ваўкі, — нашы ворагі — зьбіраліся ў грамады і судзілі лёс народу беларускага і дзялілі яго зямліцу...

Чуецца ўжо, аднак, бліскі канец зімы ў беларускім жыцьці. Народу беларускаму абрыдла ўжо зіма, чуваць што-раз часьцей нараканьні на зіму. Птушак — беларускіх культурнікаў, што-раз больш і больш, каторыя пяюць на чэсьць і славу Бацькаўшчыны. Сонца — беларуская культура, што-раз мацней сьвеціць і грэе. Рэчкі — школы беларускія, і тыя таксама хоць з вялікімі труднасьцямі, прабіваюцца праз грубыя лёды і нясуць асьвету ў роднай мове.

Усё будзіцца... Будзе Вясна і прыдзе лета!...

Моладзь беларуская павінна стацца гэтымі птушкамі, каторыя галосяць вясёлы сьпеў — разносіць культуру і асьвету пад шэранькія, саламяныя вясковыя стрэхі. Моладзь беларуская павінна стацца Сонцам, сьвяціць добрай надзеяй для ўсяго грамадзянства і выйсьці на спатканьне Вясны' Народу...

Дык бярэмся-ж да працы, беларуская моладзь, на роднай ніве. Будуйма Вясну для свайго сярмяжнага Беларускага Народу!... **Я. Н.**

# Пачатак друкарства.

Быў час, калі людзі ня мелі аніякага паняцьця аб кнігах, якія мы маем цяпер.

Першая надрукаваная кніга паявілася на сьвеце ўсяго 450 гадоў таму назад. А цяпер пытаньне: што было замест кніг? Біблія паказвае, што Майсей запісаў Божыя запаведзі на каменных скрыжалях, а гісторыя кажа, што законы, каторыя даў сваей старонцы адзін з старажытных грэцкіх мудрацоў, Салон, былі выразаны на дрыўляных дошчачках.

Многа гадоў таму назад істнавалі на сьвеце тры вялікія дзяржавы: Эгіпет, Вавілёнія і Ассырыя. Яны мелі сваё асобнае пісьмо. Пісалі яны на каменях, на глінянных дошчачках і плітах, а часамі на бронзавых бляшках і г. д.

Апрача каменя, гліны і бронзы, старадаўныя народы часта знаходзілі іншы матэр'ял, як напр., кітайцы пісалі на цьвёрдых лістах, а часамі і на кары. Яшчэ некаторыя народы пісалі на папірусе, (папірус—гэта такое дзерава).

За два сталецьці да Нар. Хр. на месца папіруса паявіўся пэргамэнт; пэргамэнт вырабляюць з скур: коз, бараноў, быкоў і г. д. Самы лепшы пэргамэнт — гэта са скуры цяляці і ягняці.

Некалькі вякоў пісалі людзі на пэргамэнце, пакуль не надумаліся выраблять паперу, такую самаю, на якой цяпер мы пішам і друкуем газэты. Як мы ўжо ведаем, што паперу вырабляюць: з хлапка, саломы, дрэва і г. д.

У Эўропе папера паявілася ў VI веку, аднак гэта папера была прывезена. Самі-ж эўропэйцы пабудавалі папяровыя фабрыкі ў XIV сталецьці.

У сярэднія вякі кнігі перапісывалі манахі. Яшчэ і цяпер можна бачыць такія кнігі, напісаны старанна на лістох пэргамэнта. Кожнаму з нас ведама, што такія кнігі цаніліся надта дарага, так напр., Біблія напісаная на пэргамэнце каштавала 500-600 чырвонцаў, а то і болей. Я думаю, што ўсім зразумела, чаму так дарага цаніліся гэтыя кнігі, бо каб напісаць кнігу, то трэба было пасьвяціць паўтара—два гады працы.

У XIII в. немцы навучылі італьянцаў рабіць карты да ігры. З пачатку карты рысавалі рукой, а потым адзін чалавек найшоўся, каторы выразаў з дошчачкаў фігуры і рабіў адбіткі на паперы. Такім чынам пасьля выдумкі карт, пачалі людзі думаць аб тым, як-бы друкаваць кнігі. І вось гэта выдумаў Іван Гутэмбэрг.

(Далей будзе). **Я. Б.**

# Літэратурны аддзел.

**Я. Быліна.**

## Бальляда.

Балюе пан у старым замку —
Кругом дружына ля стала.
На панадворку каля ганку
У бочках усьцяж гарыць смала.
Там чэлядзь цэлу ноч пяе, рагоча,
На хорах музыка- грыміць;
Усім свабода: хто што хоча,
То можа есьці, можа піць.
Сталы у замку і на дворы

Стаяць застаўлены ядой,
Віно прывезена з замора,
Плывець у кубкі там ракой.
Гуляе пан вясельле сына:
Вясёлы ўсе, як ёсьць кругом;
Сабралась верная дружына,
Гасьцей паўнюсенькі ўвесь дом.
Сьмех, крыкі, гоман, песьняў гукі,
Аж звоняць вокны ад гульні.
Там вычвараюць блазны штукі,
Вун паляць штучныя агні.
На першым месцы між дружыны
Засела двое маладых,
Вясёлыя плывуць гадзіны.
Адзін штось сумен стаў жаніх:
Яго ня весяліць нічога
Ні музыка, ні сьпеў гасьцей,
Прычын тут суму відаць многа, —
Ён штосьці крые ад людзей.
А што? згадаць ніхто ня можа,
Чаму так сумен малады.
Ён сэрца маладой трывожа,
Ў ёй суму бачацца сьляды,
І пан задумаўся глыбока,
Пасьля рукою знак ён даў,
Кругом зірнула яго вока
І прамаўляць ён так пачаў:
„Вы, верны слугі, мілы госьці,
Сягоньня нам вясельля час
І толькі малады наш штосьці
Тут сум наводзіць на ўсіх нас.
Якая-ж суму ёсьць прычына?
Я знаю добра ўсё, як сьлед, —
Прайшла свабоды ўжо гадзіна,
Жыцьця юнацкага зьвяў цьвет:
Жанімства трэба ўзяць аковы,
Заўсёды верным быць жане
І шлях жыцьця зачаць ужо новы,
Навыкі кінуць у старане,
Што перш любіў і чым займаўся.
Нічога — суму не пара,
Яшчэ ты з горам не спаткаўся,
Твайго жыцьця ўстае зара
І за шчасьлівую зару
Я чару ўзношу у гару!“
Усе віно пачалі піць
І многа год запелі ўсе —
Ну гром так пэўне ня грыміць

І домам так не затрасе,
Як затрасьлісь ад песьні сьцены.
Агонь дрыжэў і чуць ня згас.
Як прапялі тоаст гэны,
Пан даў слугам такі прыказ:
„Каб сум разьвеяць тут сусім, —
Хай прыйдзе лірнік мой Яхім
І песьняй гучнай і вясёлай
Развесяліць усіх наўкола.“
І слугі хутка пасьпяшалі,
Каб споўніць то, што пан вялеў —
У момант лірнік быў на салі
І важна ён у крэсьле сеў.
Настроіў ліру, памаўчаў
І так пасьля пяяць пачаў:

„Жыў у заморскай зямлі
Князь багаты адзін;
Яго дзеткі ўмярлі —
Ацалеў толькі сын.
Ён сынка даглядаў,
Лепш як скарбаў дварца,
Што рабіць — сам ня знаў,
Каб усьцешыць хлапца.
Сынок выраз, як цьвет,
Ўсіх красой весяліць
І даждаўся ён лет: —
Прышоў час ажаніць.
Прыказ слугам пайшоў,
Каб для сына яны,
У заморскіх князёў,
Пашукалі жаны.
Верны слугі тагды
Ідуць споўніць прыказ,
Аднак князь малады
Сумен стаў у той час! —
Ён падданку любіў
Шчырым сэрцам сваім,
Толькі бацька ня знаў
Нічагуські аб тым.
Што цяпер тут рабіць?
Ён ня знаў небарак,
А дзяўчыну губіць
Не хацеў-жа ніяк...
Ведаў добра, што князь
Не дасьць згоды на то,
Каб за жонку узяць
З звайго краю дзяўчо.

Не прасіў ён айца,
А чакаў з дня на дзень
Сваім мукам канца.
Стаў маўклівы, як пень.
І даждаў на канец:
Ўжо гасьцей сталі звацъ,
Прыбіраць ўвесь дварэц.
Маладую, відаць,
Знайшлі слугі княжну.
Скора князь малады
Будзіць мець ўжо жану.
Што ён зробіць тагды?
Як жыць будзе ён з ей?
Ці шчасьліва, ці не,
Хто-ж згадаць мог з людзей?
Не згадаць-жа і мне.
Толькі зналі ужо:
Гэта быў не сакрэт,
Што падданка яго
Сама кінула сьвет.
Як прапала, і гдзе—
Адзін Бог толькі знаў;
Мо' ляжыць у вадзе,
А мо' зьвер разарваў.
Бач—жаньбы дзень настаў:
Валяць госьці ў дварэц
Маладых павязьлі
У царкву пад вянец.
А пасьля пачалі,
Піраваць, баляваць,
Што і трудна тут мне
Разсказаць, апісаць.
Ўвесь палац, як ў вагне,
Зігаціць ўсё кругом.
Музыканты даюць,
Аж трасецца ўвесь дом.
Госьці п'юць і ядуць,
Віно льюць гайдукі.
Малады штось сядзіць
Нейкі сумны такі...
Есьць ня хоча ні піць...
Вот у скокі пайшлі,
У салёне прастор:
Больш сто пар—паплылі,
Панясьлісь, як віхор.
Малады з маладой,
Ўся дружына за ім.

Раптам скуль не спакой,
Хто-ж спыніў іх саўсім...?
Які-ж тут чарадзей
Расчыніў дзьверы ўсе?
Глядзь — ідзе хтось бардзей.
Жах усіх штось трасе.
Бачаць мару ў дзьвярах.
Сваю любу пазнаў
Малады — з крыкам: „ах“!
Ён самлеўшы упаў.
Ціха мара стаіць,
Пазірае кругом;
Пасьля моцна крычыць,
Быццам жудасны гром:
„Гэй, цяпер скачы князь!—
Мяне сын твой на зьдзек
Кінуў подла у гразь...
Ну, скачыце праз век!“
Вот падняўся віхор,
Быццам з пекла чорт гнаў,
Аж затросься ўвесь двор,
Пад зямлю ён запаў.
І цяпер кожны год
У начную пару
Чутны лопат, ламот,
Музыкантаў ігру.
Пакуль сьвет істнаваць,—
Князь з дружынай сваей
Усё будзе скакаць.
Вось, як дзіўна людзей
Бог карае няраз...
Зьвесіў ліру старык,
Галавою панік
І закончыў свой каз.

—о—

## НА СУСТРЭЧ ВЯСЬНЕ.

Ідзе вясна, а з ёй жыцьцё
Нанова ачунее...
На дрэўцах голых-жа лісьцё
Узноў зазелянее...
Куды ня глянь—усё жыве,
Усё збудзілася са-сну.
А гымн Вясьне з-усюль плыве!
Вітаюць ўсе Вясну.
Прырода ўся: і птушка й зьвер
Дажбога праслаўляе,

І кожны з іх на свой манер,—
Свой гымн Яму сьпявае.
І мы Вясну сустрэць пайдзем!
Ачысьцім сэрцы з плесьняў,
Дажбогу гымн, мы свой складзем,
З гаротных нашых песьняў.
Хто так спаткае з нас Вясну,—
Той дачакае й лета;
Хто толькі збудзіцца са-сну—
Мець будзе шчасьце гэта...

* * *

Хто хоча бачыць Вясны Сонца,
Прад ім хай сэрца той адкрые,
Ў душы сваей няхай ваконца
Сьлязьмі гарачымі прамые...

*Марвіч.*

—o—

НАРОДНАЯ ПЕСЬНЯ.

Ой пайду я долам,
Долам, даліною,
Стаіць, цьвіце вярба,
Вярба з каліною.*)
Я вербачку зламлю,
Каліначку шчыплю.
Я ўдовушку люблю,
Дзетак ненавіджу.
—Ня брыдзься міленькі,
Маімі дзеткамі,
Ты пойдзеш з касою,
Яны—з грабелькамі.
Ты будзеш касіці,
Яны—заграбаці,
А я маладзенька,
Абед гатаваці.

Запісаў у Лідзкім павеце:
*Міхал Шчастны.*

—o—

* * *

Прыдзі да мяне, Ты жаданае Натхненьне...
Прыдзі жаданае, бо я прагну цябе...
Ня дай замерці набалеўшай, бурнай душы маей. Ты ведаць павінна, што ўвесь я твой і няшмат трэ' сілы мяне ўскалыхнуці.

*) Апошнія два радкі паўтараюцца.

Без Цябе думак сваіх сьветазарных ня здалею выліць ў балюча-прыгожых, цудоўных словах роскашы, ня ўмею злажыць іх у мэлёдыйныя матывы.

Пальцы мае няздольны крануць струнаў чароўных, мае адвеку заснуўшае Ліры.

Прыдзі-ж да мяне, Ты Натхненьне жаданае, прыдзі ў-ва ўсей прыгожасьці і магутнасьці сваей. Запоўні істоту маю сваімі пякучымі праменьнямі і праймі душу маю бурную шалам сьвятых парываў...

* * *

Прыйду... Хачу аддацца Табе... Валадай!... Ты скажаш жорсткае слова і адыйдзеш.

Ты п'яна-раскошнае, пякуча-салодкае, буйнае, дзікае нязмерна-жаданае Натхненьне зноў вабіш... смяешся... расплываешся і гінеш...

* * *

Прыдзі.. Прыдзі....

Разбуджу я сваю адвеку заснуўшую Ліру, з сілай рвану грубымі, няўмелымі пальцамі чароўныя струны яе і ў гукі галосныя, бурныя гукі ўлажу сваю запоўненую Табою душу, і ў хвора-дзікім скоку закруцяцца, зарагочуць гукі над сьветам бяздушным, бязвольным, над брудам людзкім...

Вырвецца змучаны, здушаны стогн—пратэст, стогн-прызыў, голасна ўдарыцца ў цемру і рассыпецца бурна-віхрыстым рэхам поклічу прабуднага!...

І ў дзікім імпэце ўспамяну і распалю да-бела свае мазгі, і гэты сьвет панясу я ў цемру бязвольля людзкага, сьвяціць ім буду, —аж прапаліцца чэрап галавы маей..

Ня стрымаюць, абарвуцца чароўныя струны Ліры маей і абарваны аккорд, гымн сьвятой праўды, ускалыхне магутным прызыўным гукам заснуўшыя душы бязвольных...

А свабодны сьвет шырока разальецца і пройме цемру жыцьця...

Спапялее зьдзек і гвалт.

Загуляе пяшчота на тварах бяздольных...

Дык-жа прыдзі Ты да мяне, жаданае Натхненьне... Нядай замерці набалеўшай, бурнай душы маей...

Прыдзі!..

Z.

# Лісты.

## ЗАЗЬЯЛА НАША ЗОРКА.

**Крамяніца,** Ваўкавыскага павету. Седзячы цэлы час на вёсцы, нярaз думаў сабе я, што мы Беларусы цяпер маем часопісі беларускія палітычныя розных кірункаў, гаспадарчую, рэлігійную, студэнскую, нават і для беларускіх дзетак, а ня мелі часопісі беларускай працоўнай моладзі. Аж нядаўна атрымліваю пробны нумар часопісі беларускай моладзі „Шлях Моладзі“, каторая мяне вельмі ўсьцешыла.

Моладзь беларуская, бязумоўна павінна падтрымаць гэту часопісь і згуртаваць каля яе ўсе свае сілы, і павінна ісьці за ёю, а разам і за агульным голасам беларускай моладзі да працы на роднай ніве, на карысьць Бацькаўшчыны Беларусі і сярмяжнага Беларускага Народу.

Дык беларуская моладзь гуртуймася каля свае зорачкі, каторай на імя „Шлях Моладзі“, і натужым усе свае сілы, каб сьвятло яе што-раз мацней сьвяціла!

Хай-жа цьвіце і разьвіваецца „Шлях Моладзі“!

**Я. Дубок.**

## НЕ ЗАБЫВАЙМАСЯ СВАЙГО РОДНАГА!

**в. Гудзевічы,** Горадзенскага пав. Бедная нашая старонка, як матэр'яльна, так і маральна. Бедныя матэр'яльна, бо зямлі нашыя сяляне маюць вельмі мала, дык часта ня маюць скуль здабыць сабе хлеба. Бедныя маральна, бо насельніцтва наша забывае аб рэлігіі, гаспадарцы, аб сваей роднай мове і аб песьні народнай, каторая часта так шмат дае навук жыцьця. Асабліва падупаўшы на гэтыя недамаганьні наша моладзь, каторая замест займацца працай карыснай для народу беларускага, — найчасьцей займаецца п'янствам.

Дарагая Моладзь, кінь гэтыя шкодныя навыкі, а вазьміся за працу на роднай беларускай ніве. **Я. Ц. Н.**



# Хроніка

**Сьвяткаваньне 11-тых угодкаў** Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, ладжана Бел. Нацыянальным Камітэтам, адбылося вельмі ўрачыста з наступнай праграмай:

1. А 10 гадзіне ўрачыстае набажэнства ў касьцеле сьв. Мікалая, якое адправіў кс. П. Татарыновіч, а кс. В. Гадлеўскі сказаў казаньне; 2. а гадз. 13 урачысты малебен у царкве Сьв.-Троіцкага манастыра; 3. а гадз. 19 сьвяточная акадэмія, пачатая кароценькай прамовай старшыні Б. Н. К. сэнатара В. Багдановіча. Рэфэрат адпаведны прачытаў пас. А. Стэповіч. Ад Літоўцаў прамаўляў старшыня Літ. Тымчасовага Камітэту грам. Сташыс, ад Украінскага студ. —Білінскі, ад Літоўскага студэнства старшыня Л. С. С. студ. Блажыс, ад польскіх дэмакратаў грам. Сьвяневіч.

Пасьля хор пад кіраўніцтвам грам. Мацьвійца прапяяў цэлы рад беларускіх песьняў і пару украінскіх.

Прысутныя на сьвяткаваньні былі вельмі задаволены, што можна было заўважыць на вялікім падняцьці духа.

**Прысуд Апэляцыйнага Суду над „Грамадой"**, быў прачытаны 16.III. с. г. Усе чатыры б. паслы ў Сойм: Бр. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла і Б. Валошын, якія перш былі засуджаны кожны на 12 г., цяпер кара зьменшана да 6 г. катаргі кожнаму. І ўсім іншым кара таксама зьменшана.

**Беларуская вечарына.** У нядзелю 17.III. с. г. зладжаная была вечарына Бел. Студэнскім Саюзам у Вільні. Праграма вечарыны была выканана дужа добра.

**Новыя беларускія кніжкі і часопісі.** За апошні час выйшлі з друку і прадаюцца наступныя бел. кнігі і часопісі: 1. Беларускі сьпеўнік з нотамі. Выд. „Бел. Выд. Т-ва". Цана 75 гр., з перасылкай 1 зл. 2. Сьвяты Ізыдар Хлебароб", кс. П. Татарыновіч. Выданьне „Хрысьц. Думкі." Цана 20 гр.; 3. Беларуская граматыка для школ. Бр. Тарашкевіча. Выданьне V пашыранае В. Тарашкевічыхі. Цана 1 зл. 50 гр. 4. „Статут Бел. Інст. Гасп. і Культуры" папраўлены. 5. „Студэнская Думка" № 1 (11) у пабольшаным фармаце. Цана нумару 1 зл. 6. „Заранка" — часопісь для беларускіх дзяцей, сшыток 2—3 (15-16). Цана сшытка 45 гр. 7. „Саха" — гаспадарская месячная часопісь. Цана нумару 30 грошай. 8. „Авадзень" № 2 — часопісь сатыры, жартаў і сьмеху. Падпіска на 3 месяцы 1 зл. 50 гр. Усе гэтыя кніжкі і часопісі можна купіць у беларускай кнігарні „Пагоня" у Вільні, Завальная вул. 7.

**Рэколекцыі** для Беларусаў-каталікоў адбыліся ў касьцеле сьв. Мікалая ад 20 да 23 сакавіка с. г.

# Усячына.

**Фатаграфаваньне жывата.** Апошнім часам у Амэрыцы ў шпіталі м. Сінг-Сінг вучоныя заняліся фатаграфаваньнем нутра жывата ў жывога чалавека пры помачы маленечкага апарату. Апарат гэты адкрыў адзін венскі вучоны, каторы мае абыймо 1 квадратны цаль. Пацыент, катораму фатаграфуюць жывот, глытае гэты апарат разам з гумовым провадам. У сярэдзіне апарату знаходзецца лямпа. Фатаграфаваньне такім чынам, дало досыць добрыя разультаты.

**Юбілей паштовага значка.** У мінулым месяцы Францыя сьвяткавала 80-вы юбілей выпуску першага паштовага значка (маркі), які быў заведзяны ў 1848 г. Да гэтага часу ня ведалі значкоў, а лісты пасылаліся за квіткамі, якія выдавалі ўрадоўцы на поштах, пры належнай аплаце за пісьмо.

Першай дзяржавай, якая завяла паштовыя значкі, была Англія ў 1840 г.

**Надзвычайны інструмэнт.** Адзін венскі архітэкт Эммэрік Спэльман збудаваў надзвычайны электрычны фортэпіян.

Інструмэнт гэты можа пяяць чалавечым голасам, даваць зыкі скрыпкі, трубы, арганаў або фортэпіяну і г. д.

**Небясьпечная опэрацыя.** Нядаўна ў Празе праф. доктар Ірасэк здаў справаздачу з цікавай опэрацыі, якая была зроблена на адным 19 летнім работніку.

Работнік гэты быў падстрэляны з карабіна і куля папала каля сэрца. Пры опэрацыі, якая прадаўжалася каля 45 мінут, трэба было дастацца аж у самае сэрца, каб адтуль дастаць кулю. Адкрытае сэрца працавала праз увесь час нормальна. Опэрацыя ўдалася добра.

**Заместа шкла — папера.** У апошнія часы ў Амэрыцы, санітарныя ўлады, дзеля гігіенічных варункаў выдалі загад вырабляць папяровыя шклянкі і бутэлькі на малако, ваду садовую і розныя мінэральныя воды. Вырахавалі, што пляшкі шклянныя ёсьць даражэйшыя і ня так гігіенічныя, як папяровыя, якія можна пасьля апаражненьня выкіды-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш, Альфонс Шутовіч і Уладыслаў Тарасэвіч.*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч.**

Я. Галіеўскаму. Часопісь будзем пасылаць. Вельмі цешымся, што Вы будзеце пашыраць „Ш. М.“ і з намі супрацоўнічаць.

Я. Дубу. Карэспандэнцыю зьмяшчаем. Пішыце больш.

Я. Ц. Н. Карэспандэнцыю Вашаю зьмяшчаем. Незабывайце і надалей прысылаць.

А. Анісько. Вельмі цешымся, што Вы будзеце з намі супрацоўнічаць. Дзякуем за шчырыя пажаданьні. Прысылайце матэр'ялы.

П. Лукашэвічу. „Ш. М. для Вас вышлем, але пастарайцеся зараз выслаць падпісную плату, бо ў праціўным выпадку спынем высылку. Гадавая падпіска каштуе 4 зл.

М. Мальцу: часопісь Вам будзем высылаць. Пастарайцеся прыслаць падпіску. З разгадкамі спазьніліся.

В. Накірас. Вы спазьніліся з прысланьнем разгадак і дзеля гэтага кніжкі не пасылаем. Просім прысылаць падпішчыкаў платных.

Я. Рыдзіку: Дзякуем за шчырая пажаданьні. Пашырайце „Шлях Моладзі“.

Р. Рудко. „Ш. М.“ будзем пасылаць. Просім не забываць аб падпісной плаце.

Р. Беганскаму. „Ш. М.“ высылаем. Прысылайце падпісную плату.

П. Кавалеўскаму. Просьбу Вашу споўнілі.

Я. Шэйбаку. „Ш. М“. будзем высылаць, але не забывайце аб падпісной плаце.

П. Асіповічу. Просьбу споўнілі. Просім прысылаць падпісную плату, у праціўным выпадку спынем высылку.

С. Пяюну. Шчыра дзякуем за брацкую прыхільнасьць. Матэр'ялы атрымалі, — скарыстаем, пішыце больш. Прысылайце вершы і апавяданьні агульнага, а не індывідуальнага характару.

А. Міхальчуку. Просьбу споўнілі. Калі спадабаецца Вам „Ш. М.“, то не забывайце аб падпісной плаце.

Ігн. Брылевічу. Часопісь „Ш. М.“ будзем высылаць; просім прысылаць падпіску.

А. Рожко і П. Баброўскаму. Пробны нумар „Ш М.“ пасылаем. Чакаем на падпіску.

М. Амяляшку: „Ш. М.“ пасылаем. Прысылайце падпіску.

Падпіску атрымалі ад: Я. Гапановіча, А. Філевіча, Паульскага, А. Аніські па 4 зл. Л. Кажурны, кс. Ул. Талочкі, С. Мацука, Я. Смыка, Я. Галіеўскага, Макарэвіча па 2 зл. Мік. Некрашэвіча, Хартановіча П. па 1 зл. Усім прыслаўшым падпіску шчыра дзякуем, „Ш. М.“ пасылаем.

За разгадкі загадак з № 1 „Ш. М.“ кніжкі высланы: Я. Шэйбаку, М. Дурэйцы, Мік. Амяляшцы, Я. Рыдзіку і Іг. Брылевічу.

ваць. Гэтая новасьць у хуткім часе мусіць перанясецца ў Эўропу.

**Згарэла 114 асоб.** У в. Уголькіно, Уладзімерскай губ. падчас пажару, які паўстаў у кіне ад кіноматографічнай іструшкі—згарэра жыўцом 114 асоб, 11 моцна папараных і 6 лягчэй.

**Самагубства ў Бэрліне.** У мінулым годзе ў Бэрліне застрэлілася больш як 20.000 чалавек. Прычынай гэтага ёсьць дэмаралізацыя, якая пашыраецца пасярод маладога пакаленьня.

## ПРЫКАЗКІ.

Жуда бядзе не паможа.
За наша жыта—яшчэ нас набіта.
Шкоднаму кату хвост адразаюць.
З вялікай любасьці ня раз кій паломіць косьці.
Калі Бог прысудзіць, ніякі чорт не разбурыць.

## ЗАГАДКІ.

1. Пад аднэй шапачкай пяць паненачак: дзьве мокрыя, тры сухія.
2. Без языка наш Трахім гаворыць.
3. Бяз рук, бяз ног, вароты адчыняець.
4. Пяець пятушок,—бяз кішок.
5. Кабыла бяз чэрава ўсё сена паела.

УВАГА. Для пяці першых асоб, прыслаўшых разгадкі вышэй паданых загадкаў у Рэдакцыю „Шляху Моладзі“, будуць падараваны беларускія кніжкі.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

П. Задуме. Стацьцю атрымалі. Дзякуем. Просім не забываць нас.

М. Дурэйцы. Дзякуем за шчырыя пажаданьні. Часопісь будзем Вам пасылаць, але не забывайце аб падпісцы. Просьбу Вашую споўнілі.

М. Дварэцкаму. Чосопісь нашую будзем высылаць Вам акуратна, але і вы будзьце для нас акуратным з падпіскай. Пішыце ў нашу часопісь „Ш. М.“, бо Вы маеце здольнасьць да пяра. Падтрымлівайце нас платнымі падпішчыкамі. Просьбу споўнілі, дамагайцеся на пошце.

Ю. Буку спынена высылка, дзеля таго, што не прысылае падпісной платы і наагул нічога не дае аб сабе знаць.

Ігн. Пупіну. Дзякуем Вам закарэспадэнцыю, але яна нажаль не падходзіць у „Ш. М.“, дык мы перадалі у Рэд. „В. К.“ Пішыце больш з жыцьця моладзі. Не забывайце аб падпісцы.

Я. Кавалеўскаму. Дзеля таго, што Вы спазьніліся з прысланьнем разгадак, кніжак не высылаем. Не забывайце аб падпісной плаце.